*Расія патрабуе сплаты даўгоў (стар. 3)*
*Хроніка дзяржаўнага перавароту (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

13 снежня 1996 г. № 95 Кошт свабодны

## Генеральны пракурор – таксама са Шклова

**Учора (12 снежня) работнікам Пракуратуры РБ быў прадстаўлены новы шэф.**

На гэтую пасаду А.Лукашэнка прызначыў яшчэ аднаго магілёўскага «кадра» — Алега Бажэлку, які працаваў пракурорам Магілёўскай вобласці. Раней ён быў пракурорам Шклоўскага раёна. Перад роспускам КПСС у 1991 г. працаваў у Магілёўскім абкаме КПБ.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Кінкель заклікае замарозіць супрацоўніцтва

**Да таго часу, пакуль урад Беларусі не будзе дзейнічаць дэмакратычным шляхам, ратыфікаванне дагавора аб супрацоўніцтве і партнёрстве паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю павінна быць замарожаная.**

Так лічыць міністр замежных справаў Германіі Клаўс Кінкель. Як заявіў К.Кінкель падчас сустрэчы міністраў замежных справаў ЕС у Брусэлі, рэферэндум, што адбыўся ў Беларусі, з'яўляецца незаконным, а яго падрыхтоўка і вынікі сведчаць аб маніпуляцыях з боку Аляксандра Лукашэнкі. На думку К.Кінкеля, Еўрапейскаму Саюзу неабходна крытычна перагледзець пытанні далейшага супрацоўніцтва з Беларуссю.

*DPA—БелаПАН*

## Беларусь адзначыла Дзень правоў чалавека новымі арыштамі

**15 чалавек было арыштавана пасля пікету, праведзенага ў мінулы аўторак (10 снежня) у Мінску каардынацыйным камітэтам маладзёжных арганізацый «Адзінства ў дзеянні».**

Акцыя ў абарону правоў чалавека пачалася ў 12:00 каля будынка Нацбанка — на тым самым месцы, дзе 30 траўня адбываліся масавыя збіванні і арышты студэнтаў. Спачатку пікетчыкі павярнуліся тварам да сцяны і, заклаўшы рукі за галаву, некалькі хвілін стаялі моўчкі, дэманструючы гэтым, што хутка ў такім становішчы можа апынуцца любы грамадзянін Беларусі, які не згодны з рэжымам Лукашэнкі.

Потым хлопцы паднялі плакаты з надпісамі: «Кітай, Карэя, Беларусь — хто наступны?», «Сёння — Дзень абароны правоў чалавека» і іншыя і ўсталі ўздоўж будынка Нацбанка. Дэпутат П.Знавец паведаміў прысутным, што дзеючая Канстытуцыя 1994 г. дае грамадзянам права на правядзенне падобных акцый. Тым часам з міліцэйскай гукаўзмацняльнай машыны неслісія заклікі *«не парушаць грамадскі парадак і разысціся, бо акцыя не дазволена»*. Але пікетчыкі не звярталі на іх увагі. Дарэчы, напярэдадні пікету аднаму з яго арганізатараў, Паўлу Карнацыцкаму, было ўручана афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці правядзення акцыі за подпісам пракурора сталіцы Купрыянава.





*На здымках: пікет і затрыманне пасля пікету.*

Усіх удзельнікаў пікету (звыш 100 чалавек) здымалі некалькі міліцэйскіх спецапаратараў. А на другім баку праспекта каля толькі што адкрытага рэстарана *McDonald's* граў вайсковы духавы аркестр. Кантраст паміж дзвюма падзеямі быў настолькі выразны, што здавалася, быццам сюррэалістычныя кадры з фільмаў Феліні перанесліся ў беларускую рэальнасць. Пікетчыкі ж адрэагавалі на адкрыццё «амерыканскіх сталовак» па-свойму. Прахожым раздавалі партрэты арыштаванага паэта Славаміра Адамовіча з подпісам «Ён ня есьць гамбургераў». У 13:00 па праспекце пранёсся прэзідэнцкі картэж. Людзі сустракалі пасажыра «Мерседэса» № 1 воклічамі «Ганьба!», «Далоў Луку!».

Пасля заканчэння пікету некаторых яго ўдзельнікаў пачалі хапаць асобы ў цывільным. Двух чалавек арыштавалі на рагу праспекта Скарыны і вуліцы Леніна, аднаго на вул. К.Маркса, а прадстаўніка арганізацыі «Чырвоны Жонд» Сяргея Пульшу «вялі» аж да плошчы Свабоды. 11 снежня ў судзе Ленінскага раёна пачаўся разгляд адміністратыўных справаў затрыманых.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*(Падрабязнасці пра затрыманых на стар. 2)*

**Кожны чацвёрты выбаршчык у Мінску поўнасцю не давярае афіцыйным дадзеным аб выніках рэферэндуму.**

**Такія вынікі сацыялагічнага апытання, праведзенага службай «Люстэрка» кампаніі БелаПАН. Увогуле, адказы рэспандэнтаў падзяліліся практычна пароўну. На пытанне *«Наколькі вы давяраеце афіцыйным дадзеным аб выніках рэферэндуму?»* 24% адказалі, што давяраюць поўнасцю; столькі ж (24%) давяраюць часткова; 25% зусім не давяраюць. Астатнія паведамілі, што гэтая праблема іх увогуле не хвалюе.**

## Дэпутаты не здаюцца

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія не прызналі вынікаў рэферэндуму, правялі ў мінулы аўторак сход, на якім абвясцілі, што ВС застаецца «адзіным легітымным заканадаўчым органам Беларусі» і што ён дзейнічае.**

*«Тэрмін нашых паўнамоцтваў сканчаецца ў 2000 годзе, а да гэтага ніхто не можа нас пазбавіць мандатаў»,* — сказаў, адкрываючы сход, старшыня парламента Сямён Шарэцкі. Ён у каторы раз падкрэсліў, што вынікі рэферэндуму прызнаць нельга, бо, па-першае, гэтае мерапрыемства прайшло з найвялікшымі парушэннямі, а, па-другое, яно магло быць толькі кансультатыўным. Такім чынам, падкрэсліў Шарэцкі, працягвае дзейнічаць Канстытуцыя 1994 года з усімі юрыдычнымі наступствамі.

Каля 50-ці дэпутатаў (у тым ліку і члены Прэзідыума Домаш, Гіруць, Карпенка, Новікаў і Калякін) на працягу паўтары гадзіны вырашалі, што рабіць парламенту далей. У якасці дыскусійных былі прапанаваныя наступныя тэмы: якой павінна быць аргструктура камітэта (ці руху) у падтрымку дэмакратыі (парламент разлічвае стаць ядром гэтай арганізацыі); якую пазіцыю варта заняць адносна прэзідэнта; якія канкрэтна і ў якім выглядзе будуць дзейнічаць парламенцкія камісіі.

У пошуках адказаў гучалі самыя розныя і часам даволі супярэчлівыя прапановы. Напрыклад, не проста не прызнаваць Лукашэнку і ягоныя структуры, а, паставіўшы мэтай адхіленне яго ад улады, арганізоўваць акцыі грамадскага непадпарадкавання параіў Віктар Ганчар. Уладзімір Нісцюк заклікаў не лезці «на ражон», праводзячы акцыі ў Мінску, а больш увагі надаваць правінцыі, якая і забяспечыла перамогу прэзідэнту. Сваю стрыманасць дэпутат патлумачыў тым, што спадзявацца на дэпутацкую недатыкальнасць асабліва не даводзіцца. Па інфармацыі Нісцюка, не выключана правядзенне да сакавіка новых выбараў, у выніку якіх улады паспрабуюць «пазбавіць» апазіцыйных дэпутатаў іхніх мандатаў. У спрэчку з гэтым прагнозам уступіў Станіслаў Багданкевіч, які новых «выбараў» не палохаецца. Багданкевіч выказаўся за рашучыя палітычныя дзеянні і прапанаваў на базе камітэта ў абарону дэмакратыі стварыць шырокі рух з усіх партыяў, што прызнаюць Канстытуцыю 1994 г. На думку Паўла Знаўца, не выкарыстаныя ўсе магчымасці і былых структураў. Знавец бачыць магчымасць зноў дабраць 70 подпісаў і «запусціць» у другі раз механізм імпічменту праз Канстытуцыйны суд (пэўна — ценявы?). Аляксандр Дабравольскі заклікаў прапанаваць кандыдатам, якія 24 лістапада выйшлі ў другі тур парламенцкіх выбараў, далучыцца да дэпутацкага сходу. *«Ім можна надаць права дарадчага голаса»*, — дадаў Станіслаў Шушкевіч. А вось Мечыслаў Грыб бачыць магчымым запрасіць АБСЕ прыслаць у Беларусь камісію па правах чалавека, падобную той, якая пабывала ў Босніі.

Карацей, частка прапаноў дэпутатаў была вартая разгляду, частка выглядала жаданнем ухапіцца за саломінку ці спробай у другі раз уступіць у тую ж самую ваду. На жаль, за гэтымі дыскусіямі так і засталася не абмеркаванай структура Камітэта ў абарону дэмакратыі. Схема, якую абрысаваў у пачатку паседжання Генадзь Карпенка, асаблівага энтузіязму ў зале не выклікала, а іншых дэталёвых прапаноў не паступіла. Затое дэпутаты аднагалосна прынялі палітычную заяву, у якой у чарговы раз прэзідэнцкая палітыка названа тупіковай, а рэфармаванні апошніх дзён — незаконнымі.

Наступны сход, як вырашана, збярэцца ў канцы снежня. Чакаецца, што пад Новы год настрой у дэпутатаў будзе яшчэ больш дзелавы і аптымістычны, а колькасць апазіцыянераў павялічыцца за кошт тых, каго прэзідэнт пераманіў у «ніжнюю палату» шчырымі абяцаннямі, ды так і не стрымаў сваё слова. Па дадзеных на сённяшні дзень, ужо 8 «перабежчыкаў» шкадуюць аб сваёй здрадзе Вярхоўнаму Савету. Калі яны вырашаць вярнуцца і будуць прынятыя, то, безумоўна, стануць «якасным» папаўненнем для парламента, які марыць аб паляпшэнні свайго іміджу. Што ж тычыцца інфармацыі аб магчымых выбарах «ніжняй палаты», то яна ўскосна пацвярджаецца. Ва ўсякім разе, стала вядома, што прэзідэнт сутыкнуўся з праблемай камплектацыі гэтага органа дэпутатамі, згоднымі працаваць на пастаяннай аснове. Пакуль такіх набралася толькі 32 чалавекі. Астатнія не жадаюць рызыкаваць сваёй будучыняй, пакідаючы гаспадарчыя пасады. Таму, каб «ніжняя палата» дзейнічала, трэба ці прымушаць нязгодных, ці мяняць толькі што ўведзеную «канстытуцыю», згодна з якой усе дэпутаты павінны працаваць прафесійна, ці нават праводзіць новыя выбары. Цяпер прэзідэнт і ягоныя дарадцы ламаюць галаву над гэтай праблемай.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## МЗС пагражае замежным журналістам «імпічментам»

**Так можна расцаніць сэнс апошняй заявы міністэрства замежных справаў Беларусі адносна сродкаў масавай інфармацыі, якая была распаўсюджаная ў чацвер.**

Як сцвярджаецца ў дакуменце, некаторыя замежныя СМІ *«продолжают распространять искаженную информацию об общественно-политической ситуации в Республике Беларусь»*, а ў якасці доказаў прыведзены прыклад, нібыта *«обычная очередь при открытии нового ресторана преподносится как массовое шествие протеста»*. Гэтыя дзеянні МЗС расцэньвае як спробы дыскрэдытаваць унутраную палітыку беларускіх уладаў у вачах сусветнай супольнасці і нават справакаваць напружанасць у Беларусі. Між тым новая рэдакцыя «канстытуцыі», як сцвярджае МЗС, *«создала все предпосылки для дальнейшего развития демократии и белорусской государственности»*.

МЗС папярэджвае замежных журналістаў, што ў выпадку распаўсюджвання імі *«заведомо недостоверных материалов»* будуць прынятыя *«предусмотренные законодательством меры»*. Намеснік міністра замежных справаў Міхаіл Хвастоў на чарговым брыфінгу патлумачыў, якія гэта меры: *«пазбаўленне акрэдытацыі»*(сярод першых кандыдатаў на «імпічмент» — расійская тэлекампанія НТВ і расійская служба радыё «Свабода»).

Такім чынам, у барацьбе за прыстойны імідж дзяржавы вырашана не чапаць унутраную палітыку, а памяняць люстэрка, якое гэтую палітыку адлюстроўвае.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Як «падмаладзілі» пенсіянерку

**100-гадовай жыхарцы Крычава Браніславе Сякацкай раптам перасталі плаціць пенсію.**

Вытрымаўшы без грошай 2 месяцы, яна звярнулася ў «сабес». Высветлілася, што камп'ютэр, які вёў спісы грамадзян-пенсіянераў, быў запраграмаваны на максімальны ўзрост менавіта ў 100 год. Калі пенсіянерка Сякацкая перайшла гэтую векавую планку, тэхніка занесла яе ў разрад... нованароджаных і пазбавіла пенсіі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Россия требует уплаты долгов

## *Только за газ Беларусь задолжала уже 438 млн. долларов*

Не успели отгреметь политические баталии и высохнуть бокалы из-под шампанского у победителей, как главный восточный союзник вежливо напомнил о себе. Российское правительство потребовало от белорусской стороны немедленной уплаты долгов за поставленные и уже потребленные энергоносители, в первую очередь — за нефть и газ.

Систематическая неуплата россиянам за поставляемые ими нефть и особенно газ сформировала у белорусских властей своеобразный комплекс иждивенчества и, надо признать честно, сыграла огромную политическую роль. Невозврат долгов позволял белорусскому правительству длительное время поддерживать цены на топливо и коммунальные услуги на относительно низком уровне, имитируя преимущества жесткого государственного управления по сравнению с элементами либерального рыночного подхода в других постсоветских республиках, включая Россию. И если задолженность прошлых лет была списана в счет вывезенных Россией вооружений (общая сумма списаний составила 842,5 млн. USD), то сегодня наступило время платить наличными.



*Платите, иначе — труба дело.*

Российское руководство выждало окончание очередной политической кампании в Беларуси и предъявило счет. Причем сделало это, не дожидаясь, пока сумма вновь набежавшего долга станет совершенно неподъемной для компаньона по Содружеству. По состоянию на 5 декабря долг Беларуси только за год составил 438 млн. USD. Тем самым Россия дала понять, что, во-первых, белорусские предприятия и граждане должны сполна за все платить и, во-вторых, намекнула белорусскому руководству о пользе сотрудничества с международными финансовыми организациями. В совокупности это означает, что отказ от экономических реформ для Беларуси по образцу и опыту российских чреват для нее серьезными последствиями.

По сути, белорусское руководство и прежде всего президент поставлены перед выбором: либо срочно изыскать необходимую сумму в валюте, либо уже в начале зимы ощутить недостаток энергоносителей. Вариантов решения этой проблемы может быть несколько.

**Во-первых, попытаться найти деньги.** Гипотетически таких источников может быть несколько.

В первую очередь, «именем революции» изъять валюту у банков. Но доллары банков — это в основном деньги их клиентов и вкладчиков, и взять их можно только один раз. После этого валюта там опять появится не скоро, а при нынешней политической власти — никогда.

Второй источник — валютные резервы Национального банка, включая остатки кредитов МВФ. Это вполне реальный источник, но надо иметь в виду, что после такого изъятия величина чистых резервов Нацбанка составит солидную цифру с отрицательным знаком. И использовать этот источник можно тоже только один раз. Зима же, как известно, продолжается у нас до апреля, да и в целом экономика без энергоносителей существовать не может.

**Во-вторых, это предложить российской стороне имущество вместо денег.** Такой вариант решения вполне приемлем, не требует никаких затрат, но чрезвычайно проигрывает политически, так как вынуждает правительство публично расписаться в своей неспособности обеспечить экономический суверенитет страны. К тому же российская экономика худо-бедно функционирует на рыночных принципах, и это косвенно означает признание преимуществ рынка.

**В-третьих, можно попытаться пригрозить России экономически,** введя плату за размещение российских войск на территории Беларуси и начав взимать транзитные платежи (то, что еще четыре года назад предлагала оппозиция). Но это весьма рискованный вариант, поскольку Беларусь — не Украина, а база в лесу — не Севастополь.

**В-четвертых, это самовольно откачивать нужную часть энергоносителей из нефте- и газопроводов,** проходящих по территории страны, как это некогда практиковалось на той же Украине. Но это из области маловероятного, особенно учитывая современный политический имидж Беларуси и ее международную изоляцию в случае конфликта.

Из всех перечисленных вариантов наиболее предпочтительными можно считать использование валютных резервов Национального банка и переговоры о продаже (залоге) наиболее ценных для россиян белорусских промышленных предприятий. Так сказать, приватизация поневоле и на условиях, которые будут предложены российской стороной. Политические потери можно минимизировать, выдав это за очередное углубление интеграции.

Наиболее же чувствительно очередной экономический провал власти скажется, безусловно, на валютном рынке страны. «Уход» 400 млн. USD в Россию окончательно обескровит и без того небогатые валютные ресурсы, обращающиеся на внутреннем валютном рынке. Нацбанк потеряет практически любую возможность интервенций на валютной бирже для удовлетворения заявок по критическому импорту и удержанию курса белорусского рубля.

Рыночным выходом в этой ситуации была бы немедленная либерализация режима установления валютного курса и, как следствие, девальвация белорусского рубля на 40—50%. Это значительно удешевило бы белорусский экспорт, увеличило объемы продаж и поступление валютной выручки. Причем эффект наступил бы очень быстро — в течение 3—4 месяцев, учитывая запасы готовой продукции на складах. Конечно, девальвация рубля привела бы к значительному росту инфляции и повышению процентных ставок на депозитно-кредитном рынке. Но это гораздо меньшее зло по сравнению с вялотекущей стагнацией экономики и потерей валютных резервов. Инфляция в принципе неизбежна, и даже необходима, имея в виду существующую рублевую накачку экономики. Пока «напечатанные» под популистские программы рубли не будут нейтрализованы ростом цен, нормального валютного рынка в стране не будет.

К сожалению, можно предположить, что рыночному пути будет предпочтен административный. А точнее, полное изъятие валютной выручки у экспортеров по минимальному официальному курсу (в интересах простого народа, разумеется) и введение ограничений на рынке наличной валюты (например сумм покупаемой гражданами наличной валюты). Распределением валюты займутся чиновники, а биржа, скорее всего, перестанет существовать или же будет чисто номинально оформлять сделки.

Конечный итог: бегство остатков валюты за границу, активизация теневого рынка и продолжение экономического спада.

*Аналитическая группа еженедельника «Белорусский рынок»*

# Гости с деньгами не приезжают

## *В очередной раз миссии международных финансовых организаций отложили свои визиты в Беларусь*

Причем не приехала не только миссия Международного валютного фонда, но и делегация Всемирного банка, хотя некоторые официальные СМИ поспешили сообщить об этом визите.

Миссия МВФ должна была прибыть для изучения экономической ситуации и выяснения дальнейших направлений экономической политики в Беларуси. Что же касается делегации Всемирного банка, то планировалось, что она представит правительству почти завершенный вариант экономического меморандума по Беларуси, в котором анализируются проблемы экономики страны и даются рекомендации по их разрешению. После консультаций с правительством меморандум приобрел бы свой окончательный вид.

Причина отмены давно запланированных визитов, по словам представителя Всемирного банка, заключается в проблемах с компетенциями и полномочиями органов власти в свете президентской конституции. Непонятно, с кем работать, обсуждать экономический меморандум, нет уверенности, насколько законно и долговечно нынешнее правительство. К тому же существует опасность, что в итоге все решения могут быть признаны недействительными и грубо нарушены белорусской стороной, что уже не раз происходило в практике взаимоотношений международных финансовых структур с Беларусью.

Стоит отметить, что Всемирный банк (в отличие от МВФ, который уже, похоже, окончательно махнул рукой на Беларусь) еще пытается предложить финансирование некоторых проектов. Это четыре весьма важных для наших граждан проекта — по модернизации систем водоснабжения и очистки сточных вод в Минске и Гомеле; по энергосбережению в школах и больницах; проекты модернизации пенсионной системы и системы здравоохранения. Однако политический курс нынешних властей, который отнюдь не способствует экономическим преобразованиям, скорее всего поставит крест и на этих инициативах.

**Ян ГАЛЕВИЧ**

***ПОДРОБНОСТИ***

# В Китай – с любовью, из Китая – ни с чем

**В поисках нового «старшего брата», менее придирчивого и зависимого от западных стран, где Лукашенко создал себе слишком отвратительную репутацию, взор нашего «Дома колхозника» все чаще останавливается на Китае.**

Однако кроме сходства политических позиций для Беларуси сейчас намного важнее экономическое сотрудничество, в ходе которого появится дополнительный шанс выживания крупной промышленности.

По результатам 9 месяцев 1996 года Китай по объему товарооборота не вошел даже в число 15 стран — основных торгово-экономических партнеров Беларуси. Товарооборот с Китаем за этот период составил лишь 67,9 млн. долларов США, или 0,76% от всего внешнеторгового товарооборота страны. Причем более половины белорусского экспорта в Китай составляет традиционный козырь Беларуси на внешнем рынке — минеральные удобрения. Тем не менее руководство Беларуси не теряет надежды вдуть Китаю продукцию белорусской промышленности, которая, увы, по своим характеристикам не подходит для требовательного рынка более развитых стран.

И вот в очередной раз белорусская правительственная делегация вернулась из Китая. Однако результаты данного визита выглядят не слишком обнадеживающе. Об исполнении «голубой мечты» белорусских промышленников — прорыве на китайский рынок — и говорить не приходится. Самое удивительное — скорее Китаем достигнуты некоторые успехи в использовании Беларуси как рынка сбыта для своих товаров и создания здесь некоторого плацдарма для работы на российском рынке.

Один из вопросов, который предполагалось обсудить в очередной раз, создание производства по сборке на территории Китая «гордости белорусского машиностроения» — БелАЗов. В Китае работает довольно большое количество подобных машин, и потребность в них будет расти вместе с разворачиванием проекта «Три ущелья». Предусматривалось, что на территории Китая будет создано совместное предприятие по производству БелАЗов, единственная проблема была в оценке стоимости тех разработок, которые будут фактически переданы китайской стороне. Однако в ходе визита данный вопрос так и не был до конца разрешен. А свои текущие потребности в данных машинах китайцы, похоже, решили удовлетворить за счет купленных по дешевке у России БелАЗов, которые были поставлены туда в свое время Беларусью по бартеру. Единственное, что, возможно, даст какие-то положительные результаты для белорусской промышленности — это организация выпуска тягачей военного назначения в сотрудничестве с Минским заводом колесных тягачей.

В то же время китайской стороне удалось навязать Беларуси свои телефонные станции. Наше правительство, скорее всего, закупит несколько комплектов этой «чудо-техники» сомнительного качества (ведь Китай является признанным аутсайдером в данной области, будучи одной из наименее телефонизированных стран).

Таким образом, все надежды белорусского руководства на весьма перспективный и объемный китайский рынок остаются «голубой мечтой», приходится довольствоваться лишь «ценным» китайским опытом.

**Алесь САДОВСКИЙ**

***ЦЕНЫ***

# Удовольствие растягивается

Только порадовал президент своих любимых избирателей ростом цен на водку и бензин, как объявлена очередная новость — с 13 декабря повышаются цены на проезд в пригородном и междугородном автотранспорте.

Пригородный тариф вырос на 40% и теперь будет составлять 280 рублей за километр. Междугородный тариф поднялся примерно на 8% и уравнен с пригородным (составляет те же 280 рублей за километр). Что же касается «мягкого» междугородного тарифа (например, на поездки в «мягких» автобусах), то он также вырос — правда, на 7% (300 рублей за километр).

Причины, естественно, самые что ни на есть уважительные — нынешние тарифы на услуги не покрывают затраты автотранспортников и делают перевозки убыточными. Тем не менее даже повышение тарифов на перевозки не сделает их рентабельными, что позволяет надеяться многочисленным почитателям президента на дальнейшее его внимание к их расходам на поездки. Скорее всего, они увеличиваются далеко не в последний раз.

Потенциал для роста лежит, прежде всего, в практически неотвратимом росте цен на бензин — избежать его возможно разве что с помощью введения карточной системы. Несмотря на повышение цен на бензин, и в оптовой, и в розничной торговле они находятся на уровне более низком, чем в России. Например, в Москве розничная цена бензина А-93 находится на уровне 0,4—0,42 USD за литр, а у нас после повышения (если рассчитывать по рыночному курсу доллара, равному 22.800 рублей) стоимость литра бензина лишь несколько превышает 0,24 USD. Таким образом, стоимость бензина А-93 в Беларуси может возрасти еще на 57—67%. Эта цифра может быть несколько уменьшена за счет потребления нефти, добываемой в Беларуси, на которую установлена фиксированная цена, и за счет меньших затрат на переработку нефти на белорусских заводах в сравнении с российскими. Тем не менее, как минимум 30-процентный рост розничных цен на бензин в Беларуси можно ожидать.

Соответственно следует ожидать и продолжения роста стоимости всех видов услуг, связанных с потреблением бензина и нефти, в том числе и тарифов на проезд. Единственное, что может предпринять Лукашенко для того, чтобы несколько скрасить печальный эффект, — повышать цены, как это было с той же водкой, постепенно, что, вероятно, и будет осуществляться.

**Алесь САДОВСКИЙ**

СВАБОДА
13 снежня 1996 г., № 95

# Імкненне спадабацца і нацыянальны інтарэс

**Сяргей НАВУМЧЫК**



Магчыма, гэтым сваім артыкулам я назаўсёды сапсую асабістыя адносіны з некаторымі дэмакратычнымі палітыкамі. Але, па зразумелых прычынах, я магу сабе гэта дазволіць, у адрозненне ад іншых прадстаўнікоў Народнага фронта — каб выказаць тое, што сказаць неабходна. Адначасна зазначу, што выказваю свае прыватныя меркаванні.

Практычна усё, што сёння гавораць ліберальныя дэмакраты і журналісты, — асабліва пра сутнасць палітыкі Расіі — сем гадоў таму было сказана Народным фронтам і ягоным лідэрам. І амаль усё было адкінута, скрытыкавана, абсмяяна. Далучыліся да гэтага — хто болей, хто меней — і тыя палітыкі, што сёння стаяць на чале антылукашэнкаўскай апазіцыі. На іх месцы я публічна папрасіў бы прабачэння ў Пазьняка — гэта магло б гучаць прыблізна так:

*«Зянон Станіслававіч, калегі з БНФ! Вы казалі абсалютную праўду. Мы ці нешта не зразумелі, ці свядома грэбавалі ісцінай дзеля ўлады. Вопыт прыходзіць з часам, а што да ўлады — дык чалавечая натура мае слабасці. Так, мы памыляліся, але нашай галоўнай мэтай усё ж было даць лепшае жыццё нашаму народу, і гэта дазваляе нам разлічваць на прабачэнне».*

Па меншай меры, гэта было б сумленна. Бачу пад такім зваротам подпісы Грыба, Шарэцкага, Багданкевіча, Краўчанкі, Ціхіні, Ганчара, Карпенкі, Захаранкі, Фядуты, Булахава, Лябедзькі, шмат якіх журналістаў. Па меншай меры, гэта будзе справядліва.

Але, здаецца, сёння дэмакратаў падсцерагае яшчэ адна пастка. Усё часцей гучыць прапанова: знайсці альбо стварыць нейкага «агульнага» дэмакратычнага лідэра, якога можна было б прадставіць грамадству як альтэрнатыву Лукашэнку. Маўляў, людзі пытаюць: «Калі не Лукашэнка, дык хто?»...

Мне здаецца, самае памылковае, што сёння можа зрабіць дэмакратычны рух, — гэта спрабаваць стварыць імідж нейкай адной асобе. І самае згубнае для Народнага фронта — уключыцца ў такую гульню.

Спачатку — пра Фронт. У канцы 1995 года, пасля другога этапу выбараў, ліберальная прэса з задавальненнем канстатавала «заняпад БНФ» і засяродзіла сваю ўвагу на новым парламенце. Тыя пікеты, якія штотыдзень праводзіў БНФ (у абарону Канстытуцыйнага суда, Сяргея Антончыка, супраць здачы нафтакомплексу Расіі), успрымаліся з ироніяй: маўляў, нейкі дзесятак чалавек хоча нагадаць пра існаванне партыі, якая не прайшла ў парламент. Калі ж 24 сакавіка на арганізаваны Народным фронтам мітынг сабралася некалькі дзесяткаў тысяч — гэта сталася нечаканасцю для тых, хто ўжо гатовы быў пахаваць Фронт.

Ні ў якім разе не адмаўляючы ролі іншых дэмакратычных партыяў, трэба зазначыць, што менавіта актывісты Народнага фронта вынеслі на сваіх плячах «вясну—лета-96». І не іх віна, што «восень-96», якая магла б скончыцца адстаўкай Лукашэнкі і судом над ім, завяршылася ганебным пагадненнем (вось вынік бясконцых пошукаў згоды і жадання спадабацца Расіі) і паразай дэмакратаў (будзем спадзявацца — часовай). Увесь 1996 год Народны фронт ахвяраваўся, ствараў апору парламенцкім лібералам; пры гэтым ліберальная ж прэса традыцыйна падсмейвалася з Фронта і яго лідэра. Адзін з карэспандэнтаў нават з задавальненнем заўважыў, што даючы рэпартаж з акцыі БНФ, маскоўскае тэлебачанне ні слова не сказала пра БНФ, канцэнтруючы ўвагу на дзеячах зусім іншай партыі. Даходзіла да таго, што актывісты Фронта распаўсюджвалі незалежныя газеты, у якіх Фронт і яго лідэры паліваліся брудам. Цікава, як пасля гэтага можна гаварыць пра «неталерантнасць» Фронта?

Але цяпер, калі стварылася шырокая апазіцыя Лукашэнку, Фронт павінен пазбавіцца ад комплексу непаўнавартасці. Лідзіруе той, чые ідэі праходзяць праверку часам.

Шмат хто папракае беларускіх дэмакратаў, што яны не жадаюць выкарыстоўваць «мадэлі поспеху», «парады іміджмейкераў» і г.д. Нядаўна ў «Беларускай газеце» нават з'явіўся артыкул пад назвай: «Палітычны поспех: як і пра што павінен казаць беларускі палітык». Артыкул цікавы. Але, на жаль, іміджмейкерскія мадэлі могуць спрацоўваць у цывілізаваным грамадстве, а не ў люмпенізаваным, дзе найбольш ідэальная гёбельсаўска-замяталінская мадэль — «Хлусі!» Гэта пацвярджаюць і нашыя прэзідэнцкія выбары, і нядаўнія выбары ў Расіі.

Мне могуць сказаць: так, для нашага насельніцтва трэба нешта вельмі эфектнае, напрыклад знаходжанне ў турме (вельмі многім, пачынаючы ад Лукашэнкі і канчаючы некаторымі «прагрэсіўнымі» журналістамі, хочацца пасадзіць Пазьняка ў турму). Але паглядзіце: сярод кандыдатаў на цяперашніх давыбарах найбольшае маральнае права прадстаўляць інтарэсы народа ў парламенце меў Вячаслаў Сіўчык, бо менавіта ён падчас вясновых падзеяў перажыў найбольшыя пакуты ў турме і з найбольшымі стратамі для здароўя. Але Вячаслаў не выйшаў у другі тур. А вось тыя, хто падтрымліваў Лукашэнку, з ведама якіх і пачаліся разгоны мітынгаў і знявага бел-чырвона-белых сцягоў (прыгадаем 27 ліпеня 1994 года), — тых народ зрабіў пераможцамі.

Можна, канечне, распрацоўваць і ўжываць нейкія камбінацыі, але наўрад ці гэта будзе мець станоўчы эфект пры поўнай манаполіі на сродкі масавай інфармацыі, якія чым далей, тым больш паспяхова абалваньваюць грамадства. Такі варыянт толькі задаволіць пастаянную патрэбу Лукашэнкі ў пошуку Галоўнага Ворага.

Але гэта — тэхнічныя дэталі. Сама па сабе прапанова «вылучыць адзінага лідэра» замацоўвае стэрэатып веры ў цара-збавіцеля, у месію-выратавальніка, у «бацьку», у моцную руку. Гэты стэрэатып найбольш трывалы, і з усіх беларускіх палітыкаў Лукашэнка адпавядае яму як найлепш. Гэта не ўлічылі ў 1994 годзе людзі Кебіча, калі прапаноўвалі ўвесьці прэзідэнцкае праўленне, затое ўсвядомілі «маладыя інтэлектуалы», падтрымаўшы прэзідэнцтва і высунуўшы Лукашэнку. Тое, што ўжо тады асноўныя якасці Лукашэнкі (эгаізм, прага да ўлады, псіхічная неўраўнаважанасць, нявыхаванасць, поўнае адмаўленне незалежнасці Беларусі) былі відавочныя — тэма асобная. Сёння ж можна слова ў слова паўтарыць **тое, што казала дэпутацкая апазіцыя БНФ:** інтарэсам нашай краіны ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі найбольш адпавядае сістэма парламенцкай рэспублікі; у посткамуністычным, да таго ж дэнацыяналізаваным грамадстве прэзідэнцкія выбары абавязкова выйграе авантурыст, які потым хутка пераўвасобіцца ў дыктатара. Праблема ў тым, што за апошнія тры гады беларускае грамадства калі і змянілася, дык толькі ў бок люмпенізацыі.

Але тое, што нейкі шкодны стэрэатып вельмі жывучы, не азначае, што яго нельга разбурыць. Найперш трэба адмовіцца ад эксплуатацыі некаторымі дэмакратычнымі палітыкамі тых «чувств единения с братским русским народом», якімі ўсё яшчэ ахопленая большая частка нашага грамадства. Логіка звычайная: калі большасць народа лічыць так, то і мы будзем гэтак жа казаць; як возьмем уладу, то, Бог дасць, будзем кіравацца ісцінай. Жыццё паказвае, што так не атрымліваецца: даводзіцца хлусіць і надалей альбо ісці ў адстаўку. На жаль, і сёння некаторым хочацца пачасаць левай нагой правае вуха. Але такі папулізм заўсёды прыводзіць да маральнай паразы. Уласна, тут і палягае галоўная якасць БНФ — Фронт заўсёды казаў праўду. Фронт жа папракалі: вы не ведаеце народ, вы яго ідэалізуеце. Але што ўяўляе народ пасля 70 гадоў рабства, Фронт якраз ведаў і цудоўна разумеў, што толькі нязначная частка грамадства ўспрыме вылучаныя ім ідэі, а большасць — адштурхне. Але тое, што ў 1988 годзе было ісцінай для некалькіх сотняў чалавек, сёння апанавала сотні тысячаў людзей. Гэта — рэальны палітычны вынік, які шмат чаго варты.

Перад беларускай дэмакратыяй паўсталі мэты больш важныя, чым задавальненне нейкіх прыватных амбіцый, — пагроза чарговага «рэферэндуму» аб палітычным аб'яднанні Беларусі і Расіі. Вельмі дакладна напісала Ірына Халіп у апошнім нумары «Имя»: *«Президентом новой, объединенной державы будет не Ельцин, не Лебедь и не кто-нибудь другой. Им будет Александр Лукашенко. Сегодня эта мысль еще кажется смешной и абсурдной»*. Недакладнасць толькі ў тым, што абсурднай гэтая версія здавалася паўтара года назад, калі Народны фронт упершыню спрабаваў звярнуць на яе ўвагу. Сёння ж яна — пагрозлівая рэальнасць. Дэмакратычныя сілы змогуць прадухіліць такі рэферэндум, калі здолеюць пераканаць сусветную супольнасць ў небяспецы такой перспектывы. Несумненна, што свет знойдзе механізмы, каб не дапусціць распаўзання славяна-фашызму на 1/6 планеты.

І калі ўжо ўлічваць «расійскі фактар» (а ўлічваць трэба), дык нялішне паслухаць саміх расіянаў. «Коммерсант-daily» 26 лютага гэтага года напісаў: *«С точки зрения российских экономических интересов в Беларуси абсолютно безразлично, кто будет руководить этой республикой в будущем — Лукашенко, Шарецкий или кто-либо еще из нынешней республиканской номенклатуры. Главное для России — чтобы он не разделял программного положения праворадикального Белорусского народного фронта о том, что «геополитическое положение Беларуси является ее главным источником финансовых ресурсов». Как сейчас, так и в будущем российские интересы в этом государстве будут прежде всего связаны с транзитом российского газа от ямальских месторождений в Западную Европу».* Я гэта ўспрымаю так, што альбо дэмакратычныя лідэры будуць імкнуцца вельмі ўжо падабацца Расіі (а значыць, ігнараваць беларускія інтарэсы) — і тады з такімі лідэрамі Фронт павінен змагацца, альбо яны нарэшце ўспрымуць адно з асноўных «праграмных положений» БНФ. Апошняе азначае, што ім давядзецца ўключыцца разам з Фронтам у карпатлівую (без надзеі на хуткія палітычныя дывідэнды) працу па вытлумачэнню насельніцтву ісціны, назва якой — нацыянальны інтарэс.

Апошнія заявы Мечыслава Грыба, Сямёна Шарэцкага, Станіслава Багданкевіча ды іншых палітыкаў, на шчасце, паказваюць рэальнасць другога — аптымістычнага — варыянта.

*г. Прага*

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Адзінаццаць

**Пасля таго, як 11 дэпутатаў адклікалі свае подпісы пад патрабаваннем імпічмента прэзідэнта, сітуацыя ў канфлікце паміж Лукашэнкам і парламентам памянялася карэнным чынам. Хто гэтыя людзі?**

Як ні дзіўна, абставіны адклікання дэпутацкіх подпісаў па справе імпічменту дасюль не былі дастаткова асветленыя. Пры ўсёй маральнай неадназначнасці гэтай праблемы, здаецца, краіна ўсё ж павінна «ведаць сваіх герояў».

На момант падачы дакументаў у Канстытуцыйны суд (аўторак 19 лістапада) існавала 73 дэпутацкіх подпісаў пад зваротам пачаць справу аб імпічменце. Любыя іншыя лічбы — 76 ці нават 80 — называліся альбо памылкова, альбо наўмысна з псіхалагічнымі мэтамі.

Першым адклікаў свой аўтограф (літаральна на наступны пасля прадстаўлення дакументаў дзень) дэпутат ад фракцыі камуністаў **Мікалай Лазавік**, старшыня Рагачоўскага райсавета. Шалёны ціск на «падпісантаў» прынёс свой плён — у чацвер, 21 лістапада, за дзень да прызначаных слуханняў па справе свае подпісы адклікалі яшчэ 5 дэпутатаў. Нагадаем, што 21-га ўвечары ў Мінск прыехалі расійскія «міратворцы». Відавочна, усе ўдзельнікі перамоваў ужо ведалі, што патрэбнай колькасці подпісаў на дадзены момант не існуе. Магчыма, гэтая акалічнасць таксама дапаможа растлумачыць такія катастрафічныя вынікі падпісаных той ноччу пагадненняў.

У пятніцу, 22 снежня, Канстытуцыйны суд пераносіць разгляд справы аб імпічменце, а ўвечары прапрэзідэнцкая фракцыя «Згода» зрывае ратыфікацыю падпісанных дакументаў. Пасля гэтага Сямён Шарэцкі разам з яшчэ адным дэпутатам дадаюць свае подпісы пад зваротам у КС. І нарэшце, у панядзелак, пасля «рэферэндуму», свае аўтографы адклікаюць яшчэ 5 дэпутатаў. Характэрна, што дакументы аб адкліканні візіраваліся намеснікам старшыні ВС Юрыем Малумавым, які ў тыя дні знаходзіўся «на бальнічным». Зрэшты, адразу пасля рэферэндуму Малумаў «выздаравеў».

На жаль, не ўдалося высветліць, у якой паслядоўнасці адклікалі свае подпісы дэпутаты — хто быў у першай «пяцёрцы», хто ў другой. Таму назаву іх проста ў алфавітным парадку. Аграрый **Мікалай Бекіш**, дырэктар Шчучынскага хлебапрыёмнага прадпрыемства; **Уладзімір Белякоў**, член Беларускага патрыятычнага руху, начальнік упраўлення аховы здароўя Мінскага гарвыканкама; камуніст **Мікалай Бусел**, генеральны дырэктар акцыянернага таварыства «Барысаўскае аўтатрактарнае электраабсталяванне»; **Міхаіл Вапановіч**, сацыял-дэмакратычная фракцыя «Саюз працы», намеснік начальніка аддзела Гомельскага КДБ; незалежны **Валеры Кругавы**, генеральны дырэктар лунінецкага філіяла беларуска-польскай фірмы; **Валеры Мініч**, аграрый, старшыня калгаса; **Уладзімір Навасяд**, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне», намеснік старшыні парламенцкай камісіі; старшыня калгаса аграрый **Валянцін Папруга**; **Міхаіл Сасонка**, дырэктар малога прадпрыемства; **Віктар Цярэшчанка**, дырэктар міжнароднага інстытута менеджменту.

Віктар Цярэшчанка (нагадаю, што падчас прэзідэнцкіх выбараў ён быў у камандзе Лукашэнкі) увогуле паставіў своеасаблівы рэкорд. Пасля подпісу яго «запрасілі» пагутарыць у адміністрацыю прэзідэнта. Вярнуўшыся адтуль, ён заявіў, што здымае свой аўтограф. Аднак у той жа дзень пад уплывам ці то падзеяў, ці то ўласнага сумлення Цярэшчанка зноў пацвердзіў свой подпіс. І нарэшце, 22 лістапада, пасля падпісання пагаднення, Цярэшчанка канчаткова скасаваў свой голас.

Самым нечаканым можна назваць з'яўленне ў гэтай кампаніі Уладзіміра Навасяда, прадстаўніка фракцыі «Грамадзянскае дзеянне», самага маладога дэпутата Вярхоўнага Савета. Здымаючы подпіс, Навасяд паведаміў сваім калегам па фракцыі, што магілёўскія ўлады звольнілі яго бацькоў з працы. Сумняваюся, дарэчы, што пасля «правільнага» ўчынка сына іх там адновяць.

У бізнесмена Валерыя Кругавога ўлады таксама знайшлі «кнопку», звязаную з ягонай прадпрымальніцкай дзейнасцю. Ну, а «апрацаваць» старшынь калгасаў ніколі не было вялікай цяжкасцю.

Як бачым, у большасці «адклікантаў» выканаўчай уладзе было за што «зачапіцца». Ясна, аднак, што зламіць можна толькі тых, хто схільны ламацца. Зрэшты — «не судзіце — ды не судзімыя будзеце». Гэтыя адзінаццаць знайшлі сілы хаця б для першага крока, астатнія ж 30 чалавек са знакамітай «сотні» апазіцыянераў так і не «засвяціліся». Апазіцыйнасць, аказваецца, праяўлялася толькі пры тайным галасаванні.

Дзіўная, аднак, гэта справа — беларуская палітыка, дзе пытанні лёсу дзяржавы вырашаюцца такімі празаічнымі рэчамі, як пагроза пазбавіць заробку некалькі дзесяткаў чалавек. У нас не адстрэльваюць парламентарыяў — у гэтым няма неабходнасці. Дастаткова пабяцаць ім гарантаваны месячны заробак у 150 долараў і службовы аўтамабіль, каб яны адчувалі сябе на вяршыні жыццёвай мары.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

*Хроника государственного переворота*

# Подтасовки вместо стрельбы

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Октябрьский переворот 1917 г. происходил в течение нескольких часов. Государственный переворот в Беларуси в 1996 г. тянулся три недели. Помимо времени года, эти события совпадают в главном: все государственные перевороты заканчиваются узурпацией власти.

## Куда ввести дивизию?

Примерно за неделю до 24 ноября в Минск прибыло небывалое количество зарубежных корреспондентов. Среди них был российский писатель и журналист Петр Вайль (живущий ныне в Праге). Когда я спросил, возможен ли у нас, на его взгляд, государственный переворот и диктатура в классическом виде, П.Вайль ответил отрицательно и прибавил: *«Куда у вас, скажем, можно ввести десантную дивизию? Что она будет брать?»*

Действительно, десантной дивизии не потребовалось. Хватило нескольких милиционеров в здании парламента и двух — на входе, в чине полковника и старшего лейтенанта. Старший по званию вежливо объяснял журналистам и помощникам депутатов, что допуск в здание прекращен, т.к. президентский «Верховный Совет» принял «закон» о роспуске парламента.

Да и вообще то, что происходило 28 ноября, как-то мало походило на переворот в привычном понимании этого слова. Не было мало-мальского внешнего намека на противостояние. Даже митингующие уже выдохлись, и на площади Независимости их не наблюдалось. Потому практически не было и милиции. В поле зрения присутствовал одинокий милиционер в мокром плаще, имевший довольно жалкий вид.

Что ж тут поделаешь — оказывается, в Беларуси и перевороты происходят не как у людей. Но, как бы странно все это ни выглядело, суть дела от этого не меняется. Утром 28 ноября был разогнан парламент, вечером Лукашенко подписал свою «конституцию» — таким образом была поставлена точка в вязком и чавкающем, как болотная трясина, тягучем, многодневном государственном перевороте. В стране окончательно установился диктаторский режим.

## И снова – 7 ноября

Начало этого переворота, видимо, следует отсчитывать с 7 ноября. В этот день Лукашенко подписал указ, которым, вопреки решению Конституционного суда, заранее объявил обязательными итоги предстоящего референдума. Строго говоря, и информационная блокада (в частности, захват Лукашенко парламентской «Народной газеты» и невыполнение постановления ВС о «парламентском часе» на телевидении) тоже имеет прямое отношение к референдуму, так что, возможно, следовало бы определять более раннюю дату. Да и вообще все время правления Лукашенко — сплошная цепь беззаконий. Поэтому, если это время назвать перманентным переворотом, большой натяжки тоже не будет. Однако остановимся все-таки на 7 ноября.

Затем последовал второй шаг — нарушение постановления Верховного Совета о дате референдума. Как известно, предварительное голосование допускается только по основаниям, оговоренным в законе. Мало того, что Лукашенко открыл голосование с 9 ноября без всяких ограничений — «вертикальщики» на местах еще и заставляли людей проголосовать досрочно. Проконтролировать ход такого «референдума» невозможно: никакие наблюдатели не смогли бы круглосуточно в течение двух недель дежурить на участках. Поэтому все эти дни избирательные урны находились в бесконтрольном владении местного начальства, которое всегда могло их выпотрошить и заполнить подложными бюллетенями с нужными результатами. Такого рода «референдум» априори содержит в себе безграничные возможности для фальсификаций.

Поскольку итоги такого «референдума» никогда не были бы признаны Центризбиркомом во главе с В.Гончаром — появился в высшей степени наглый указ о снятии В.Гончара с должности, что стало третьим этапом государственного переворота. Лукашенко не стал обращать внимания на такие «мелочи», как Конституция и законы, по которым председателя Центризбиркома может назначать и смещать с должности только Верховный Совет.



*На снимке:*
*Семен Шарецкий беседует с милиционером на площади Независимости. В здание парламента его не пропускают.*

## Не приступом, а измором

Если бы Лукашенко мог рассчитывать на победу без подтасовок — разумеется, он не стал бы обезглавливать Центризбирком и проводить невиданное в мире двухнедельное голосование. Для Лукашенко было бы во всех отношениях выгоднее, чтобы законность референдума подтвердили многочисленные наблюдатели, чтобы результаты были признаны и мировым сообществом, и внутри страны. Тогда бы позиция противников президентского проекта была бы уязвимой: как ни крути, большинство населения проголосовало за новую конституцию. В этом случае пришлось бы сетовать на то, что граждане Беларуси сами освятили диктатуру. Но этого не произошло — требуемого большинства от списочного состава избирателей у Лукашенко не было! Социологические опросы показывали, что лукашенковский проект конституции пользуется поддержкой в среднем 40% избирателей. Слов нет: учитывая дикость проекта, это очень высокий рейтинг. Высокий — но не достаточный для того, чтобы проект был принят. Наверное, Лукашенко не очень рассчитывал на продуктивность своей топорной пропаганды. Поэтому он и пошел вразнос.

Никакого голосования на самом деле не было. Нарушения, выявленные в день голосования (которых тоже набралось тысячи), в таких условиях даже не столь важны. Ясно, что этот «референдум» настолько же легитимен, как если бы Лукашенко собственным указом ввел в действие свою «конституцию». Сомнительно, чтобы захваченный Лукашенко Центризбирком вообще реально занимался подсчетов голосов. Обратим внимание: 25 ноября в 9:00 ИТАР-ТАСС сообщило о предварительных результатах белорусского референдума. Журналисты начали звонить в Центризбирком, чтобы проверить информацию — и услышали, что... Центризбирком данными пока не располагает. Выходит, что этот орган имел к «подсчету» голосов довольно косвенное отношение. Видимо, люди, которые высасывали из пальцев итоги «лукашендума», сперва сообщили выдуманные ими цифры российским журналистам, и только потом — Центризбиркому. В общем, подсчет голосов превратился в шулерство государственного масштаба.

Следующим этапом государственного переворота стало проведение в жизнь результатов «лукашендума». Президентские лакеи приступили к этому, даже не дожидаясь окончания процедуры официального подведения «итогов». Лукашенковская профанация появилась в официозной печати под маркой «конституция». А разделение парламента на два лагеря достигло апогея. Не случайно 26 ноября Лукашенко заявил представителям Парламентской ассамблеи Совета Европы, что *«уровень демократии в Беларуси выше, чем во Франции»*. Вероятно, Лукашенко решил, что чем больше в стране парламентов, тем она более демократичная — а в Беларуси на тот момент (как и на сегодняшний день) действовали целых два парламента! При этом лукашенковская «палата представителей» ютилась то в помещении ЦК ЛуКаСМБ, то в лукашенковской резиденции, не пытаясь до поры до времени проникнуть в здание Верховного Совета.

Напомним: с 18 ноября на площади Независимости проходили ежедневные митинги в поддержку Конституции и парламента. Люди сменяли друг друга, и в любой момент с утра до вечера на площади стояло несколько тысяч человек. Над участниками реяли и бело-красно-белые, и чисто красные, и красно-зеленые флаги — Лукашенко объединил против себя всех. Последний такой многочасовой митинг прошел на площади 25 ноября. 26-го там были просто отдельные кучки людей — заключительный, так сказать, всплеск. 28-го на площади уже не было никого. За полторы недели люди устали, замерзли, — да, наконец, разочаровались: если С.Шарецкий подписывает явно капитулянтское соглашение, подписи под обращением в КС об импичменте отзываются, и вообще большая часть депутатов перешла на сторону Лукашенко — то кого ж там поддерживать и защищать?! Погас энтузиазм и у депутатов: если сначала парламентарии ночевали в ВС и проявляли решимость оставаться в здании до конца, то 28-го они просто не видели в этом смысла. Было несколько самых стойких, но и они через несколько дней покинули здание. Причем никто никого ниоткуда не выдворял. Лукашенко дождался, когда все вымотались, когда наконец всем всё порядком надоело и стала противной вся эта ситуация. Он взял крепость не приступом, а измором.

## Зонтик оказался нужнее всего

Следует отметить, что действия президентских структур отнюдь не были уверенными и последовательными. Наоборот, власти в буквальном смысле метались и вели себя, я бы сказал, робко. Символичным в этом плане является случай с одним из российских корреспондентов: президентский охранник схватил его за руку и явно не знал, что делать дальше — то ли заломать эту руку, то ли просто продолжать держать, то ли отпустить. Во время воскресного митинга 17 ноября были применены силовые действия (хотя далеко не в том масштабе, как 26 апреля — но тем не менее они были), на площадь Независимости людей не пропустили. Зато почему-то пропустили на следующий день, хотя поначалу и пытались этому воспрепятствовать — даже перекрывали выход из метро. В последующие дни никаких препятствий митингующим не чинили, однако попытались задержать в общей сложности около десятка участников, причем не на самой площади, а возле, когда люди уже уходили. Задержанных, не предъявив толком никаких обвинений (кроме разве что совершенно бредовых, наподобие раздачи «Народной воли», которую официально можно купить в киосках), держали некоторое время — и вскоре отпускали. Да и сам Лукашенко вовсе не всегда занимал твердую позицию. По косвенным свидетельствам, в президентских структурах впрямую обсуждалось снятие с референдума вопроса о лукашенковской «конституции» и то, как в этой ситуации «сохранить лицо».

Справедливости ради надо сказать, что в действиях противоположной стороны последовательности было еще меньше. Собственно, у нас даже нет оснований говорить о противостоянии законодательной и исполнительной ветвей власти. Безусловно — в нынешних условиях оппозиционные депутаты выбрали правильный (и тактически, и по букве закона) путь, когда заявили, что единственным легитимным законодательным органом является Верховный Совет, который будет продолжать свою работу: во всяком случае, мировому сообществу будет с кем иметь дело. Но все же ситуация выглядела бы иначе, если бы диктатору противостоял парламент, который как минимум мог бы собраться правомочным составом. Так не получилось — наоборот, пускай незначительное, но все же большинство депутатов вошло в декоративную «палату представителей». Число этих депутатов не стало достаточным для самороспуска Верховного Совета; более того, непонятно, кого представляет эта самая «палата представителей» (разве что лично президента) — ведь около 2/3 населения Беларуси в ней не представлено. Но поскольку о демократии и законности в нашей стране вообще речи нет, то такие нюансы мало влияют на реальную обстановку. Впрочем, подобное поведение парламента вполне закономерно: если бы большинство наших граждан было способно избрать других депутатов — оно прежде всего не избрало бы такого президента.

Очередным метастазом прошедшего переворота стал фактический самороспуск Конституционного суда. Труднообъяснимы метания председателя КС В.Тихини. Когда все решили, что он уже «сложил лапки» и смирился с наступлением диктатуры, В.Тихиня вдруг 26 ноября напомнил в открытом письме Лукашенко о консультативном характере референдума, а 4 декабря разразился весьма резкой пресс-конференцией, где дал крайне нелестные оценки лукашенковской «конституции», заявил, что в Беларуси действует Конституция 1994 г. без всяких изменений, по которой его отставку может принять только Верховный Совет, и объявил о готовности продолжать борьбу за конституционную законность и о наличии конкретного плана этой борьбы. Но уже на следующий день после этого В.Тихиня подал заявление об отставке на имя Лукашенко. Я воздержусь от слишком жестких оценок этих кульбитов хотя бы потому, что нельзя требовать от человека подвига. Однако надо было по крайней мере уйти достойно: либо дав публичную оценку ситуации, в которой невозможно функционирование КС, либо хотя бы просто тихо и незаметно. Но не делать прямо противоположное тому, что громогласно заявлял еще накануне. Безусловно, с чисто правовой точки зрения, все заключения КС, объявляющие два десятка лукашенковских указов противоречащими Конституции (равно как и заключение о неконституционности обязательного референдума), остаются в силе. Но если говорить о реальной ситуации, то было бы гораздо лучше, если бы за этими заключениями стоял полноценный действующий орган.

Свою лепту в переворот внесло и российское руководство, вмешавшееся в нашу политическую ситуацию с изяществом и деликатностью слона в посудной лавке. Три российских богатыря увязли в белорусском политическом болоте. После их «миротворческой миссии» в Беларуси установлена диктатура. Неизвестно, произошло это с благословения Москвы или же Лукашенко вышел из-под контроля, но в любом случае значительную долю ответственности кремлевские лидеры на себя взяли.

В нестандартности белорусского переворота есть один огромный плюс — его бескровность. Возвращаясь к началу статьи, отметим: слава Богу, что в нашем раскладе не нашлось места для десантной дивизии. Правда, и в ходе октябрьского переворота 1917 г. жертв было мало, а потом пролились моря крови. Однако будем надеяться, что чаша сия минует нашу страну. Пока что у нас произошел игрушечный переворот, на котором самой необходимой вещью являлся зонтик (потому что в это время дождь, видите ли, шел). Но какой бы фарсовой ни была форма переворота, все равно это только форма, которая отнюдь не меняет существа: в Беларуси фактически больше нет ни демократии, ни парламента, ни республики (следовательно, нет и президента республики) — есть диктатор и его подданные, и это нужно четко осознавать. Сразу, конечно, встает извечный вопрос "Что делать?" — но это тема для отдельного разговора.

СВАБОДА
13 снежня 1996 г., № 95

# Беларусь угрожает стабильности в Восточной Европе

## *Так считает* USA Today *— издание, которое называют «газетой №1 в Соединенных Штатах»*

Александр Лукашенко играет в опасную игру под названием «русская рулетка». Малообразованный советский бюрократ Лукашенко стал первым президентом Беларуси два года назад. Благодаря проведенному в прошлом месяце референдуму, в ходе которого, по мнению западных обозревателей, были допущены многочисленные нарушения, он получил диктаторские права.

Сегодня Лукашенко хочет уничтожить демократические свободы, полученные белорусским народом в результате распада Советского Союза, установить авторитарный режим и осуществить свою заветную мечту о воссоединении с Россией.

Его не совсем здоровый рассудок уже проявлял себя раньше. Придя к власти в 1994 г., он вновь сделал национальной символикой серп и молот и возвратил в школы учебники советской эпохи. Правительство Лукашенко прекратило всяческое проведение рыночных реформ и возвратилось к советской системе управления экономикой. В ответ на это Всемирный банк и Международный валютный фонд приостановили финансовую помощь 10-миллионному белорусскому народу.

Что движет Лукашенко? Уверенность, что будущее Беларуси в ее прошлом. Он уверен, что решение порожденных демократическими реформами проблем кроется в возврате к единоличному правлению. Навязанный им белорусскому народу референдум дал ему почти абсолютную власть над законодательными и судебными органами. Если так будет продолжаться и дальше, это может кончиться тем, что находящаяся в коматозном состоянии Беларусь будет присоединена к новому советскому альянсу.

Яростное сопротивление Лукашенко расширению *NATO* на Восток не встречает поддержки в соседних Польше, Литве и Латвии. Эти страны, расценивающие членство в *NATO* как единственную гарантию сохранения их независимости, не намерены становиться торговыми партнерами, столь необходимыми Беларуси в созданном Лукашенко климате политической враждебности. Они скореее предпочтут закупать в других странах производимые на экспорт в Беларуси грузовые автомобили и станки.

Если бы не стратегическое положение Беларуси, Лукашенко можно было бы просто вычеркнуть из списков государственных деятелей как очередного политического калифа на час. Однако местоположение этой страны на карте Европы заставляет относиться к нему с полной серьезностью. На протяжении большей части нынешнего века Беларусь была простой пешкой в большой шахматной игре. Высокоразвитая демократическая Беларусь может стать гарантом политической и экономической стабильности в Восточной Европе. Дестабилизация ситуации в этой стране может способствовать разжиганию старой вражды между Россией и Польшей.

Лукашенко является верным союзником российских ультранационалистов. Он выставляется ими напоказ как свидетельство того, что они не одиноки в своем стремлении возродить «империю зла» и гарантированные всем «социалистические блага». Всё это подрывает усилия Ельцина по переводу разрушенной российской экономики с социалистических на капиталистические рельсы и является непосредственной угрозой российским демократическим реформам, успех которых во многом зависит от последовательного продвижения России к рыночной экономике.

Всё вышесказанное доказывает, что если действия Лукашенко будут оставлены без должного внимания, то его неконтролируемая политика может нанести непоправимый ущерб мирному процессу далеко за пределами границ Республики Беларусь.

**Де Уэйн Уикхэм,**
*USA Today, 4 декабря 1996 г.*
*Перевел* **Владимир АБАНИН**

# Кувейт отгораживается

**Кувейт планирует соорудить электрифицированную ограду вдоль всей границы с Ираком, чтобы покончить с незаконным проникновением в страну контрабандистов и иракских агентов спецслужб.**

По сообщению министра обороны шейха Ахмед аль-Хамуд ас-Сабаха, ограда будет проходить параллельно 130-километровой траншее, отрытой Кувейтом в 1994 г. До сооружения ограды граница будет находиться под охраной 200 наблюдателей ООН, которые будут сообщать местным властям о всех случаях нарушения границы автомобилями и людьми.

# Эксперты NATO пра ваенную небяспеку

**Хаос і развал у расійскай арміі, а таксама бескантрольны экспарт зброі з Расіі выклікае глыбокую занепакоенасць *NATO*, паведамляе буйнейшая іспанская газета *El Mundo* са спасылкай на сакрэтныя дакументы альянсу.**

*«Небяспека для членаў NATO можа ўзнікнуць з прычыны адсутнасці кантролю за экспартам зброі, высокай ступені карупцыі ў арміі і ўрадавых колах Расіі, а таксама ў выпадку нелегальнага продажу тэхналогій навукоўцамі, якія займаюцца ядзернай, хімічнай і біялагічнай зброяй»*, — сцвярджаецца ў дакладзе, падрыхтаваным экспертамі штаб-кватэры *NATO*.

Сярод патэнцыяльных праціўнікаў *NATO* называюцца Сірыя, Ірак, Іран і асабліва Лівія. *«Пакуль пры ўладзе застаецца палкоўнік Кадафі, існуе небяспека, што Лівія можа прымяніць зброю масавага паражэння»*, — лічаць эксперты *NATO*.



## З УСЯГО СВЕТУ

# Всё на море

**Через пару десятилетий в Японском море появится целый архипелаг из островов-аэродромов.**

Во втором по величине городе Японии Осаке уже действует аэропорт, расположенный на рукотворном острове. А недавно Нагоя решила соорудить новый аэропорт в открытом море. Для осуществления проекта потребуется 50 млн. $м^3$ грунта и около 800 биллионов иен (7,5 биллионов долларов). Завершение строительства намечено на 2005 г. Строительство нового аэропорта намечается также в Фукуоке. В Токио рассматривается проект сооружения крупного аэропорта в Токийском заливе. Поскольку в Японии практически нет свободной земли, строительство аэропортов на море является единственным выходом из создавшегося положения.

# Смертная казнь для владельцев долларов

**Суданское правительство пригрозило смертной казнью суданцам, использующим в качестве платежного средства доллары США и другую твердую валюту.**

"Твердая валюта необходима Судану для ежемесячного погашения долга в 4 млн. долларов Международному валютному фонду и закупки нефти на 360 млн. долларов в год. Однако, несмотря ни на какие угрозы, постоянно растущая инфляция увеличивает популярность стабильного доллара среди местного населения.

# Два шага вперед – один шаг назад

**Китайское министерство иностранных дел решило, что проведение пресс-конференций на двух языках (китайском и английском) является проявлением унизительного почтения к старой колониальной системе.**

Посему отныне всякое общение с иностранцами будет проходить исключительно на китайском. Это решение вызвало смятение среди работающих в Китае иностранных корреспондентов, чье владение китайским далеко от совершенства. Если раньше многое в Китае их удивляло, то теперь они просто не смогут ничего понять.

# Найдены сокровища мафии

**По сообщению сицилийской полиции, ей удалось обнаружить тайник с золотом и драгоценностями, некогда принадлежавшими отбывающему тюремное заключение главарю местной мафии Сальваторе Риина.**

Тайник, в котором находились драгоценности на общую сумму 1,3 млн. долларов, был устроен под полом квартиры в Кастельветрано, неподалеку от сицилийского города Трапани. Добыча состояла из 40 килограммов золотых плиток, 300 золотых монет, нескольких золотых часов, бриллиантов, бланков паспортов и гигантского инкрустированного драгоценными камнями распятия.

# Курильщики подали в суд

**Сорок бывших курильщиков, больных раком легкого, подали в суд на двух крупнейших британских производителей сигарет в надежде добиться возмещения за нанесенный их здоровью ущерб.**

Компании, о которых идет речь, поставляют на рынок такие известные марки, как *Embassy, John Player Special, Silk Cut, Benson & Hedges* и выпускают около 80% всех британских сигарет.

# У выцвярэзнік завязуць бясплатна

**Распараджэннем міністра аховы здароўя Польшчы адмененая плата (20 злотых, або каля 7 доляраў) за дастаўку затрыманых у выцвярэзнік.**

Аднак за комплекс медычных паслуг (выцвярэзнікі ў Польшчы належаць да сістэмы аховы здароўя, а не ўнутраных справаў, як у нас) давядзецца заплаціць немалую суму — у сярэднім 200 злотых, або 70 доляраў.

# Кракадзільчык на талерцы

**У лонданскіх супермаркетах *Sainsbury's* з'явіўся новы дэлікатэс — мяса аўстралійскага кракадзіла.**

З нядаўняга часу ў гэтай сетцы супермаркетаў з'явілася таксама мяса страўсаў і афрыканскіх буйвалаў. Са словаў прадстаўніка дырэкцыі *Sainsbury's*, сучасныя людзі ўсё часцей шукаюць экзатычных і нечаканых смакаваных адчуванняў — і трэба ісці насустрач кліенту.

# $2^{1398269} - 1$

**Гэтым наборам лічбаў – два ў ступені 1398269 мінус адзін – апісваецца самы вялікі вядомы на сённяшні дзень просты лік (г.зн. што дзеліцца толькі сам на сябе і на адзінку).**

Гэты лік сумеснымі намаганнямі «вынайшлі» 700 энтузіястаў, чые хатнія камп'ютэры былі звязаныя праз сетку *Internet*. Гэты гіганцкі просты лік мае 420.921 знак і заняў бы больш за 20 старонак СВАБОДЫ, таму мы друкуем толькі яго апісанне — 21398269-1. Падобныя лічбы ўжываюцца ў камп'ютэрных шыфрах і паролях.

# Ахвяры шалёных кароў

**Праз сем гадоў сотні брытанцаў, якія заразіліся, спажываючы мяса шалёных кароў, памруць ад vCJD — асаблівай, агрэсіўнай формы хваробы Кройцфельдта—Якаба.**

Такі сумны прагноз робяць аўтары грунтоўнага навуковага даследавання, праведзенага ў Вялікабрытаніі. Адзін з яго аўтараў, д-р Джэймс Айрансайд сцвярджае на старонках газеты *Independent*, што колькасць ахвяр будзе вылічвацца хоць і не тысячамі, але напэўна сотнямі чалавек.

На сённяшні дзень у Брытаніі зафіксавана 14 выпадкаў vCJD, якая ад звычайнай хваробы Кройцфельдта—Якаба (старэчай разумовай слабасці) адрозніваецца тым, што развіваецца вельмі хутка і прыводзіць да смерці зусім маладых людзей. Дакладнае вывучэнне гэтых выпадкаў, паведамляе тыднёвік *The Lancet*, дало калектыву лекараў і навукоўцаў з Цэнтра медычных даследаванняў Эдынбурга падставы сцвярджаць, што хвароба развілася ў выніку заражэння праз мяса.

У апошнія два гады назіраецца рост колькасці захворванняў. На думку экспертаў, эпідэмія дасягне піку праз сем гадоў. Паводле ацэнак, брытанцы спажылі каля мільёна штук хворай жывёлы.

Праблема хваробы шалёных кароў і пагроза чалавечаму здароўю вымушаюць урады еўрапейскіх краін ісці на крокі, што супярэчаць працэсу інтэграцыі ў Еўрапейскім Саюзе. Напрыклад, Швейцарыя абвясціла забарону на імпарт мясных прадуктаў з Германіі, Італіі і Аўстрыі, бо ў гэтых краінах дасюль пры адкорме жывёлы выкарыстоўваецца мясакосная мука (а яе якраз могуць вырабляць з хворага быдла). Больш за тое, у Германіі пры вытворчасці каўбасаў выкарыстоўваюцца мазгі кароў. На думку экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, спажыванне такіх вырабаў значна павышае рызыку заражэння смяротнай хваробай Кройцфельдта—Якаба.

*Паводле матэрыялаў замежнай прэсы, паведамленняў інфармацыйных агенцтваў Reuter, Associated Press, PAP, France Press*
*паласу падрыхтавалі* **Уладзімір АБАНІН, Магдалена НЕПАКАЙ**

